## Віры вакол Эльвіры

/паляўнічы абразак/



Яшчэ ўчора пані Эльвіра не ўвайшла, не ўбегла, а тайфуном уварвалася ў сваю кватэру з выкрыкам Victoria! і з літарай "фау", складзенай з пальцаў выцягнутых у трыумфе рук. Яе радасць разхінала абыякавыя сцены блёку, каб вырвацца ў надпушчанскі прастор і кінуць жах пад стрэхі хат і ў кватэры "тутэйшых". Хай ведаюць, хто тут пан, а хто халоп!

Яшчэ ўчора мясцовая ўлада, не лічачыся з пратэстам большасці, назначыла яе намеснікам шэфа. - Зрэшты, іхняя большасць! - падумала з пагардай пані Эльвіра. - Хоць і не чырвоная, хоць і незалежная, затое... /тут яе бровы і губы склаліся ў паліткамісараву грымасу/ пад сцягам з другой палоскай белай. Не, улада не дурная. Ведае, адкуль вецер вее. А яны што? На сваёй зямлі, але і без зямлі, якую сталіністы прымусілі пакінуць і выманілі за цукерку-рэнту.

А вось сёння маўклівая пратэстуючая большасць загаварыла пра страйк і сунула ўладзе неабыякавы пратэст. А ўлада - як улада: дзе сіла, там і яна. Назначыла пад націскам сілы, пад ім жа і зняла.

Вось гэтага пані Эльвіры тлумачыць не трэба, таму цяпер, намагаючы ўсе свае сілы, яна хоча прымусіць уладу чарговы раз ламаць права. Забарыкадаваўшыся мяккімі крэсламі, сядзіць яна пад ёлачкай у кутку фае, а са сцен, што за плячыма, жахліва б'юць у вочы аб'явы: СТРАЙК ГЛОДОВЫ, ПРОТЭСТУЕ ШЭЦІВ СТАЛІНОВСКІМ МЭТОДОМ...шэфа!

Казалі, што шэф, калі даведаўся пра гэта, пасівеў як голуб, а хтосьці на вяршаліне ўлады папярхнуўся каваў - ледзь адратавалі. Таварышы яе забегалі як ачумелыя: прасілі, угаворвалі, малілі. А яна, маўляў, ні-ні, і без вас абыдуся! Згнаю, знішчу паганца! Запоўзаюць тут яшчэ на жыватах, ножкі лізаць будуць, ручкі абцмокваць будуць! Прыпрэ ўлада з голай галавою, паклоны біць будзе дый прасіць прабачэння!

Але песня скончылася! Ён, шэф той, проста сам падлез пад руку - без аніякага прымусу ралтам загаварыў на ўсю краіну, што і Касцюшка, і Манюшка, і, о дзякуй табе Госпадзі!, што ты яму розум адабраў, вершыкі самога Міцкевіча на тутэйшай мове чытаў! Паставіць бы яму яшчэ адно пытанне і даць хвіліну часу, то ён бы загаварыў, што і Радзівілы, і Пацы, і Тышкевічы, Сапегі і Хадкевічы - таксама, як іх там... О Госпадзі!, ажно ў галаве круціцца. Усе тады пабачылі б, хто ён такі дый за што чорцікі яму смалу вараць. Калі б ведаў, што накліча сваімі словамі, ён бы язык сабе адкусіў.

І вось яна, пані Эльвіра, ведала, асабліва пасля апошняга выхаду ў эфір, што мядзведзь выйшаў з бярлогі і пара пачынаць гон. І пачалося, карррамба!

Затрубілі медныя трубы ў сталіцы правінцыі, і рушыла нагонка са сцягамі і барабанным грукатам з надпушчанскіх прадпрыемстваў. У першай шарэнзе пайшлі і нейкія тутэйшыя. Так заўсёды бывае, калі на сваіх зайцаў палююць прыезджыя паляўнічыя, намашчаныя павагаю стрэльбы. А стрэльба не абы-якая - ужо дзяржаўная. Кожнаму, хто гэтулькі гадоў ехаў у чырвоных панскіх санях, робіцца страшна, калі выкінуць яго на паўдарозе ў цёмным лесе. Ён гатовы зноў верна служыць, каб хоць дазволілі яму ўскочыць на палазы і ехаць на пачапку. А мо пасля ўдасца залезці на сані, схавацца сярод роўных? Тым больш, што сам ён белы, хоць і з чорнай кала-

ніяльнай душою і псіхікай. Але ж пад чэрапам колеру не відаць. Ды яшчэ каланіяльная душа патрабуе няшмат стравы: хопіць, калі яе пахваляць, паабяцаюць, пагладзяць па галоўцы, - "наш ты",- скажуць. Зашчыміць душа ад удзячнасці, слёзы ад радасці закруцяцца ў вачах, і забудзе ён пра родную песню, пра страху хаты, у якой не так даўно тая ж песня сілай біла з грудзей.

- Большасць з іх якраз такая, - думала пані Эльвіра, - з рукі есці будуць. Хоць тут, нячыстая іх укусіла, ці што, амаль усе акунёмнахрыбеціліся. Але мы і так свае! Звольніць і



працы нідзе не даваць. Хай апенькі ў пушчы збірае! Пасля б вывесілі партроты з рэкамендацыяй: "Стралець без воклiку!", - моў, праступнік страшны. Разам з Румцайсам Ічын грабілі! І што!? Думаеце, не паверылі б? Хто асмеліўся б, калі б у самой "Выбарчай" напісалі? А тое, што нібыта заслужаны, сусветна вядомы, фестывалі царкоўнай музыкі... Тэрэ-фэрэ, мув мі цёцю! Каб быць заслужаным, то з Бурым або з Лупашкам трэ было б бегаць. Аб іхнім крыжы ўжо пісалі. Усіх прычарнілі пад калабарантаў, шуцманаў і убоўцаў. І што? Аўтар слаўным стаў. Сам Сальман Рашдзі ад зайздрасці ледзь не лопнуў. Нават тэлеграму яму прыслаў, што ў "Кур'еры" друкавалі. Бляск "Д'ябальскіх версэтаў" так прыгаснуў, ажно ў сталіцы калоніі загаварылі, што Нобеля а... мае. А калі звестка пацвердзілася добра паінфармаванымі, што пры талерках у кухні Каралеўскай акадэміі аціраліся, то сам шэф "Кур'ера" шпарнуў артыкулік, а потым нейкі Грук залез у мовазнаўства і абвясціў свету лінгвістычнае адкрыццё стагоддзя: "беларуская мова, як лінгвістычная катэгорыя, не існуе - гэта мова паграніччa". Сусветных мовазнаўцаў жахам абдало: падумаць толькі, цэлае жыццё даследвалі тое, чаго не было. Адзін, як чутка нясе, збрыў галаву дагала, попелам пасыпаў і падаўся ў манахі. Затое з усходу прыйшла тэлеграма з павіншаваннямі: "семьдесят лет мы это утверждаем, а отец народов им лекции читал в Куропатах по этой теме".

Усміхнулася пані Эльвіра, успомніўшы графікаў, якія таксама знюхалі бізнес. Палезлі тады на старонкі беларусаеда чорцікі - тутэйшыя з віламі. Самога Казіка ў святыя высвяцілі, анёлавы крылы яму прычапілі. Вось і ёй, Эльвіры, марылася слава. Казік, гэта праўда, усім наклаў, а яна - толькі аднаму. Але затое - значнаму. І пазбягаліся хціўцы, кусалі-грызлі, каб не адной ёй слава досталася. Ажно пёры ды пух з ахвяры сыпаліся, а жах тутэйшых чорнай хваляй абняў. Праўда, не ўсіх. Подпісы збіраць сталі, націскалі тут і там, дый па радыё ў сваёй праграме выпендрыліся. А нашы тады іх з іншай бочкі, як пры Сталіне: нацыяналісты, моў, супольны дом узарваць хочуць. А мы ж тут за дэмакратыю, за плюралізм змагаемся. Вось пляжым мілі-Чаўшэску, тырана страшнага, дэмана Белавежскай пушчы. Ён, праўда, амаль гатовы быў яе высечы, каб жытло нам аформіць, але хто ж пра гэтае ведае, хто асмеліцца хоць намёкам пікнуць. Сталіністам яго зробім, чырвоным павуком! Не дарма журналіст "Рэчыпаспалітай" пісаў: "за адзін дзень ён /чытай: бельмавіністы/ знішчылі тое, што мы будавалі столькі гадоў..." Ігігігі! - зарагатала пані Эльвіра. - Добра сёе, папера ўсё вытрымае. Варта мець сваю прэсу, тады ўсё можна. А яны што маюць? Адзін тыднёвік, дый той многія баяцца купляць публічна, каб ніхто пра іх не здагадаўся. Вось, каб хто тайком у хату прыносіў, тады, чаму не?, прачыталі б.

– Эх, жыццё! – усміхнулася пані Эльвіра сваім думкам. – Журналісты, інтэрв'ю, слава! Сёння намеснікам, праз месяц поўным шэфам стала б. Ах, Божа ж мой. Прастор, лёгкасць думкі, распасцёртыя крылы. І палёт, палёт да сонца! А там? Улада і слава. Слава баевіка, змагара за чысціню народу і краіны. Поўны трыумф. Як тая пані дохтар у "Адкрытай студыі". Усе глядзелі б, усе захапляліся б. Што там Казік, што там нейкі Грун. Вось яна – першая з першых, нават галадае...

Успомніла з жахам пані Эльвіра, чаму вось тут сядзіць пад ёлачкай, сама адна без сяброў, якія адступіліся, здрадзілі. Каму тут верыць? – Во каму! – абрадавалася яна. – Пракурору! Хай капае, рыецца. Хто рыецца, той знойдзе, павер, няма крышталёва чыстых людзей. Вазьмі яго на відэльчык, шустані тузом з рукава. Мо ў дзяцінстве каму што перакасіў, пераараў. Знайдзі, парадуй душу грэшную. Я на каленачках прыпаўзу, свечачку пастаўлю, за здароўе памалюся.

А ўсё было так бліска! Улада слабая, байца, ёй даражэйшае мяккае крэсла за справядлівасць і права. А права – гэта сіла, а сіла – гэта мы! Вось вам філасофія дэмакратыі і плюралізму.

– А гэтыя чаго тут сабраліся? – выпучыўшы вочы, пані Эльвіра злюстравала дзесяткаў пяць дзяцей, што абступілі яе і ёлачку. Вунь той губамі варушыць, лозунгі чытае. Ці ж могуць гэтыя нявольніцкія душы зразумець імкненні вольнага чалавека, змагара за дэмакратыю? Рагочуць як прыдуркі нейкія, дый пальцамі тыцкаюць. А я тут паўдня ўжо галадаю, ажно ў жываце вуркоча. За акном ноч сятая чорным воранам навалілася, – і пані Эльвіра, заплюшчыўшы вочы, убачыла сябе апоўначы, у куточку пустога фае. Цераз велізарны зал, што ў яе за плячыма, паўзуць пачвары з Белавежскай пушчы.

Дзеткі даўно ўжо паразбягаліся, сябры пані Эльвіры цішком павышмыгвалі. Грэюць мяккую пасцель, глядзяць сытыя пузы. А яна дзеля іх тут голадам сябе морыць, з прывідамі важе. – О не! – ускіпела пані Эльвіра.

Неўзабаве сторож знайшоў пад самотнай ёлачкай запісачку з новым лозунгам:

ЗАВЕШАМ СТРАЙК ГЛОДОВЫ...

Абразак з натуры намаляваў
Віктар Стахвюк

---

Віктар Швед

БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДА

Выходзім новай Грамадою
Мы смела на жыцця прасцяг,
Падняўшы ўвысь над галавою
Свой бел-чырвона-белы сцяг.

Закончыліся нам сягоння
Застою змрочныя гады –
Мы пад крывіцкаю Пагоняй
Мацуем нашыя рады.

Ідэі ўзнёслыя ў народзе
У практыцы ажыццявім.
Няважнае – хто скуль прыходзіць,
Галоўнае – прыходзіць з чым.

І гарадскі мы, і вясковы
Адзіны беларускі люд.
Яднае нас культура, мова,
І наш бацькоўскі родны кут.

Будзем за лепшы лёс змагацца
І памагаць сабе ў бядзе.
Таму ўсім трэба аб'яднацца
У Беларускай Грамадзе.

## Stan gospodarki wschodniej części województwa białostockiego w ostatnich dziesięcioleciach

Obszar zamieszkały przez ludność białoruską stanowi 57% całości obszaru województwa białostockiego (5733,4 km$^2$)[1]. W 1983 roku mieszkało tu 33,4% ludności województwa, co daje 38 osób na 1 km$^2$ wobec 65,6 osób na 1 km$^2$ w skali całego województwa. Liczba ludności zmniejsza się systematycznie od 1946 r. Obecnie niektóre gminy uległy niemal wyludnieniu. W latach 1977-1983 ubyło stąd 77% ludności czynnej zawodowo.

Odpływ młodzieży wiejskiej do miast w tempie najwyższym w skali kraju doprowadził do anomalii w strukturze wiekowej ludności. Na wsi dominuje obecnie ludność w wieku przedemerytalnym lub emerytalnym. Na 100 kobiet w wieku 18-24 lat przypada 197 mężczyzn.

Liczba zgonów jest znacznie większa niż liczba urodzeń. Następstwem tego są tysiące hektarów ziemi leżącej odłogiem.

Przyczyna istniejącego stanu rzeczy tkwi w polityce władz państwowych wobec tego obszaru.

Od 1945 roku obciążenia finansowe gospodarstw chłopskich były tu znacznie wyższe niż w części zachodniej, mimo iż dominowały tu ziemie IV, V i VI klasy. 74% ogółu gleb to gleby kwaśne.

Ze względów politycznych prawdopodobieństwo buntów ludności przeciw władzy było znikomo małe na tych terenach, i dlatego w latach 1945-1948 wobec trudności z egzekucją należności w stosunku do państwa w części zachodniej województwa wyrównano ten bilans w części wschodniej.

We wschodniej części województwa białostockiego w 1949 roku przeprowadzono pierwsze eksperymenty kolektywizacji rolnictwa, bazując na wzorcach radzieckich z lat 1939-1941. Skutkiem tej polityki było rozbicie więzi społecznych i ekonomicznych, praktycznie uniemożliwiające powrót do gospodarki chłopskiej w kilkudziesięciu wsiach tego obszaru. W zachodniej części województwa kolektywizacja wystąpiła w symbolicznych rozmiarach.

W latach siedemdziesiątych i pierwszej połowie lat osiemdziesiątych - jak twierdzą ekonomiści z Ośrodka Badań Naukowych w Białymstoku - relatywnie niższy był poziom zaopatrzenia rolnictwa tego obszaru w środki inwestycyjne i obrotowe będące przedmiotem rozdziału na szczeblu wojewódzkim lub centralnym, a także występował niewłaściwy system finansowy, zwłaszcza w jego części fiskalnej i kredytowej. Obciążenia finansowe rolników były tutaj stosunkowo większe niż w pozostałej części województwa, mimo niższej produkcji i dochodów.

### Infrastruktura gospodarcza

60% budynków na tym obszarze jest z drewna, większość wzniesiona do 1960 r. W latach siedemdziesiątych tempo rozwoju budownictwa wiejskiego zaczęło szybko spadać. Liczba inwestycji malała w miarę upływu czasu.

Średnie plony zbóż w 1983 r. - 20,2 q/ha; w kraju - 31 q/ha.

Na 1 ha wysiewano tu 69 kg wapna, w zachodniej części - 97 kg.

1 sklep przypada na 4-5 miejscowości.

33% wsi odczuwa deficyt wody; w kraju - 16%.

7,3% gospodarstw podłączonych jest do sieci wodociągowych; w województwie - 18%, w kraju - 32%.

Zużycie energii elektrycznej było tu najniższe w kraju - 200 kWh na 1 mieszkańca.

Dróg twardych o ulepszonej nawierzchni było tu 17,1 km na 100 km$^2$; w kraju - 40,3 km na 100 km$^2$. W niektórych gminach tego regionu (Gródek,

Michałowo, Narewka) poniżej 10 km na 100 km$^2$.

Gęstość linii kolejowych - 5,4 km na 100 km$^2$, z czego 50% wymaga natychmiastowej modernizacji.

Abonentów telefonicznych we wschodniej części województwa białostockiego było 21,4 na 1000 mieszkańców, w zachodniej zaś - 75. W niektórych wschodnich gminach wskaźnik ten był niższy od 10.

Szkolnictwo

W szkołach podstawowych, pomimo rzadkiego zaludnienia tego obszaru na 1 salę przypada 25 uczniów, w zachodniej części - 21 [illegible]. Większość sal w szkołach wiejskich to wynajęte, nieprzydatne do potrzeb szkolnictwa, pomieszczenia.

W porównaniu ze wszystkimi pozostałymi obszarami województwa wschodnia część charakteryzuje się najniższymi wskaźnikami wykształcenia ludności.

48,5% ludności zatrudnionej w sektorze nieuspołecznionym (głównie w rolnictwie) nie posiadało wykształcenia podstawowego.

Ochrona zdrowia

Na 10 000 mieszkańców w 1983 roku było tu 11,1 lekarzy; w zachodniej części - 34.

Na 10 000 osób było tu 3,4 stomatologów; w zachodniej części - 5,2.

Ośrodki zdrowia posiadało 5% wsi, apteki - 2%.

Kultura

W kinie nie było w ogóle 61 % ludności, w teatrze - 83%, na koncercie muzycznym w Filharmonii lub w Domu Kultury - 89%. Aktywność kulturalna na wsiach ograniczała się do oglądania telewizji i (w coraz mniejszym stopniu) do kultywowania folkloru.

W 3 gminach brak jest GOK-u, w 70% gmin nie ma chociażby 1 księgarni, sporadycznie (głównie w osadach) występują punkty biblioteczne.

Ekologia

Rzek 1 klasy czystości nie było już w 1982r. Narew miała 2 klasę czystości, Narewka nie odpowiada jakimkolwiek normom, Rudnia - część 3 klasa i część poza normą, Supraśl i Sokółka - 3 klasa, Krynka i Łosośnica poza normą. Stopień zanieczyszczenia stale się powiększa. W chwili obecnej pozostał znikomy już procent wód o czystości 2 klasy.

Drobne zakłady przemysłowe (mleczarnie, garbarnie, POM-y) funkcjonują bez żadnych urządzeń oczyszczających, stąd też dewastacja środowiska wodnego postępuje w zawrotnym tempie.

Strukturę zasobów wodnych pogarszają nieprzemyślane prace melioracyjne, które doprowadziły do osuszenia bagien, likwidacji naturalnych zbiorników wodnych, obniżenia poziomu wód gruntowych do katastrofalnych rozmiarów, zagrażających gospodarce rolnej i hodowlanej. Koszty melioracji, pokrywane przez rolników, w rzeczywistości szły na degradację środowiska naturalnego.

Lasy, które w 1983 roku według oficjalnych statystyk, pokrywały 36,1% powierzchni województwa, pozostały już tylko na zdezaktualizowanych mapach. Praktycznie istnieją tylko kontury lasów. Wycinane planowo do celów przemysłowych kompleksy leśne Puszczy Białowieskiej i Puszczy Knyszyńskiej tworzą wielkie polany porosłe najczęściej chaszczami i przypadkową roślinnością. Eksploatacja Puszczy Białowieskiej przez krajowe i zagraniczne przedsiębiorstwa zagraża istnieniu tego kompleksu leśnego.

Jeszcze szybciej postępuje dewastacja prywatnych działek leśnych. Zanim opuszczający wieś właściciele przekazali ziemię, najpierw wycinali i sprzedawali las. "Zielone płuca" pozostały już tylko legendą, nakreśloną środkami masowego przekazu.

W drugiej połowie lat 70-tych rozpoczęto wielką inwestycję w gminie Narewka - budowę zbiornika wodnego "Siemianówka". Zlikwidowano kilka wsi zamieszkałych przez ludność białoruską. W planach uwzględniono założenie nad zbiornikiem wielkiego ośrodka wypoczynkowego dla tzw. "ludzi pracy" z Białegostoku, Warszawy i Śląska. Projektowano podział ziemi pod zabudowę dacz i ośrodków wczasowych. Zbiornik oprócz likwidacji kilku wsi i zalania pól uprawnych spowoduje osuszenie nadgranicznych bagien i grozi podmyciem północno-zachodniej części Puszczy Białowieskiej.

Osadnictwo

Problemy demograficzne i ekonomiczne wschodniej Białostocczyzny próbowano rozwiązać poprzez system osadnictwa. Niemal do 1983 roku pierwszeństwo w przydziale kredytów, maszyn rolniczych i materiałów budowlanych mieli przybysze z zewnątrz. Otrzymywali wszystko to, na co latami czekali miejscowi rolnicy. W warunkach postępującej inflacji taka polityka władz państwowych prowadziła do utraty wszelkiej motywacji wśród miejscowej ludności do wiązania przyszłości z rolnictwem.

Jeszcze większe rozgoryczenie wywoływało to, że po kilku latach eksploatacji osadnicy sprzedawali częściowo zużytkowany sprzęt po cenie znacznie wyższej od ceny zakupu. Pozwalało im to na spłacenie zaciągniętych kredytów, i pozostawała jeszcze reszta na zagospodarowanie się w mieście. Koszty tej obłędnej polityki pokryła miejscowa ludność w kilka lat później, nabywając zniszczony sprzęt po znacznie wyższych cenach. Osadnicy nie byli w stanie utrzymać się na ziemi pozbawionej wszelkiej infrastruktury (dróg, wodociągów, telefonów, komunikacji, szkół, ośrodków zdrowia, placówek kulturalnych).

Uwzględniając powyższe trudności z osiedleniem na stałe ludności napływowej na początku roku 1989 prof. Czesław Noniewicz przedstawił plan skutecznej realizacji pomysłów z końca lat 70-tych. Według tych projektów, rozważanych przez władze wojewódzkie, z budżetu wojewódzkiego i państwowego miały być wybudowane nowoczesne farmy z całkowitym wyposażeniem, drogi, szkoły, przedszkola, kościoły, i dopiero wtedy zamierzano sprowadzić rolników z centralnych regionów Polski ("Kurier Podlaski", 27-29.01.1989 r.). Kryzys gospodarczy uczynił te plany bezprzedmiotowymi.

Ostatnie czasy przyniosły nowe pomysły zaludnienia wszystkich wschodnich województw Polski poprzez osiedlenie ludności pochodzenia polskiego mieszkającej w Kazachstanie i w innych częściach ZSRR. W opinii ludności białoruskiej może to być ostatni etap rozkładu gospodarczego tej części kraju.

Przyczyną wyludnienia wschodniej części województwa białostockiego, zamieszkałej przez ludność białoruską, była szczególnie nieprzyjająca gospodarce rolnej polityka władz wojewódzkich i centralnych oraz nieuwzględnienie specyfiki narodowościowej i wyznaniowej tego regionu.

Eugeniusz Mironowicz

---

[1] Wszystkie dane liczbowe podaję za opracowaniem Ośrodka Badań Naukowych w Białymstoku "Problemy aktywizacji społecznej i gospodarczej gmin położonych we wschodniej części województwa białostockiego", Białystok 1985, opr.: H. Sasinowski, M. Serwin, R. Szklarski.

За апошнія сорак пяць гадоў, у выніку дыскрымінацыйнай палітыкі польскіх уладаў, беларуская вёска ў Польшчы дайшла да абсалютнай руіны. Берутаўская прымусовая калектывізацыя мела разарваць эмацыянальныя сувязі і прывязанасць беларусаў да зямлі, каб пасля, ва ўмовах гібення і безвыхаднасці, прымусіць амаль усё маладое пакаленне да эміграцыі ў горад.

У гарадах нават найбольш прымітыўныя ўмовы жыцця павінны былі здавацца куды лепшай "цывілізацыяй" у параўнанні з тым, што магла ахвяраваць знішчваная вёска: без вадаправодаў, без доступу да элементарнай механізацыі, без доступу да сучасных формаў культуры. Тэхнікай у беларускай вёсцы надоўга мелі заставацца серп, каса ды конны плуг. А потым дзяржава выманіла ад спрадвечных гаспадароў і зямлю, за галадовачную рэнту.

Вёска апусцела, пастарэла і змоўкла. Вечарамі на вуліцы не сустрэнеш ні аднаго чалавека, і толькі дзе-нідзе ў акне старэнькай хаты замільгоча просінь ад тэлевізарнага экрана. Праўда, засталося ў вёсках па некалькі маладых гаспадароў, якія, нягледзячы на неспрыяльныя варункі, нясуць свой цяжкі мужыцкі крыж. Яны, як вострая парушынка, муляюць вочы прыхільнікам каланізацыі. Таму яны павінны растварыцца ў польскім моры каланістаў, якія нахлынуць з азіяцкіх рэспублік Савецкага Саюза. Якраз аб гэтым гаварыў пан Чэслаў Яніцкі, намеснік прэм'ер-міністра Польшчы /"Штандар Млодых", 27.11. 1989/: "... больш чым мільён палякаў з Савецкага Саюза вернецца ў краіну. /.../ Можна спадзявацца, што 20-30 працэнтаў скіруецца на тэрыторыю ўсходніх ваяводстваў..." - урад бярэ пад увагу факт, што трэба ім дапамагчы перайманць гаспадаркі, - "... мусім акрэсліць прынцыпы крэдытавання і нават субвенцыянавання прадукцыі ад земляробаў-рэпатрыянтаў".

Калі б хто не ведаў, адкуль у гэтай цяжкай эканамічнай сітуацыі краіны браць сродкі на крэдыты ды льготы, тады справу тлумачыць "Тыгоднік Салідарнасць" /№ 15, 9.09.1989/ у артыкуле "Наша зэмя". Аўтар піша: "Чарговы раз у сваёй гісторыі Польшча стаіць перад праблемай каланізацыі. Немагчыма паўтарыці каланізацыю на аснове Магдэбургскага права. Няма вайсковых асаднікаў, якія засялялі ўсходнія крэсы пасля І-шай вайны. Застаецца іміграцыя./.../ Прапаную сцягнуць на найбольш спустошаныя рэгіёны пагранічча палякаў з Казахстану і іншых рэспублік Савецкага Саюза. Патрэбныя крэдыты дзеля гаспадарчага ўмацавання наездных сем'яў могуць быць узяты з продажы на краёвым рынку прадуктаў на агульную суму 120 мільёнаў долараў, якія прышлюць у рамках дапамогі з краін Супольнага еўрапейскага рынку".

Вось як гэтая справа плануецца.

Увесь свет праводзіць дэкаланізацыю /нават папуасаў вучаць стаць народам/, а ў самім цэнтры Еўропы, за грошы дэмакратычных дзяржаваў, хочуць нам стварыць сярэдневякоўе.

Віктар Стахвюк

## ЯК ВЯРНУЦЬ СВАЕ СЯДЗІБЫ АД ДЗЯРЖАВЫ?

Сяляне, якія да 1 студзеня 1983 года здалі сваю зямлю за рэнту, могуць выступіць да гмінных уладаў аб зварот для сябе на ўласнасць сваёй сядзібы, на якой стаяць будынкі. Дзеля гэтага трэба выступіць да начальніка гміны з наступным паданнем:

Naczelnik Gminy
w ...........

Na podstawie art. 6 Ustawy z dn. 24 lutego 1984 r. o zmianie Ustawy o ubezpieczeniu społecznym rolników indywidualnych i ich rodzin wnoszę o przeniesienie z powrotem na mnie własności działki gruntu (zwanej siedliskiem), oddanej Państwu za emeryturę (lub rentę) umową z dn. ....

Podpis

Заўвага: Зварот сядзібы не перашкодзіць атрымоўваць рэнту.

# SAMO ŻYCIE

Jerzy Kułak w artykule "Tak zabijano" ("Tygodnik Białostocki", 13.01. 1990) streszcza relację prokuratora sądu specjalnego w latach pięćdziesiątych, który podczas tzw. "procesów kiblowych" ferował w Białymstoku zwykle jeden wyrok: karę śmierci.

Panu Kułakowi chodzi o wykazanie w swoim tekście, iż wyroki wykonywali prości ludzie, mówiący dziwnym językiem stanowiącym mieszaninę rosyjskiego i polskiego. Prokurator, który wymuszał karę śmierci, w tej relacji zasługuje wręcz na współczucie. Jak by nie było, zawszeć to swój.

Dowiadujemy się ponadto, że zwłoki ofiar tych zbrodni wywożono samochodem "Zis-25", nazywanym "Czornyj woron". Określenia takiego, o ile wiem, nie ma w języku polskim. Chodzi bowiem o pospolitego kruka. Oznacza to, iż nazwa ta, jako pamięć o represjach, dotyczy innego ludu. I rzeczywiście, samochodem zwanym nienawistnie "czornyj woron" wyłapywano i dostarczano ofiary sądów kapturowych Canawy - prawej ręki na terytorium Białorusi wszechwładnego Berii.

Oznaczałoby to niewątpliwie, iż prokurator najpierw pełnił swoją funkcję w latach 1937-41 na Białorusi, gdzie w owym czasie wyroki ferowano w straszliwym tempie. W samych Kuropatach zamordowano 300 000 Białorusinów. O tym mass-media, w tym i "Tygodnik Białostocki", zdają się nie wiedzieć. Cóż to by było, gdyby społeczeństwo raptem uświadomiło sobie, że NKWD mordowało nie tylko Polaków, ale i Białorusinów, w dodatku w tak przerażających rozmiarach (ponad 1,5 miliona). Nie po chrześcijańsku byłoby wówczas kopać tak zmasakrowany naród.

A zatem, "czornyj woron", który na Białostocczyźnie nie był znany, przywędrował wraz ze wspomnieniami pana prokuratora, np. z I Armią LWP, do której pan prokurator pewnie się załapał.

Pamięć o języku, który tak zaciekawił pana Kułaka, najpewniej została także przeniesiona z poprzedniego okresu wspomnień pana prokuratora, co zresztą wynika z jego relacji, gdyż musiał znać dwa języki: ojczysty polski i urzędowy (tam) rosyjski. Jak wiem, przed wojną w powszechniakach rosyjskiego nie nauczano.

Wiktor Stachwiuk

W reportażu telewizyjnym 22 stycznia 1990 r. z cyklu "Obok nas" zatytułowanym "Ściana wschodnia" poeta Jan Leończuk udowadniał, że wyludnienie wsi wschodniej Białostocczyzny zakończy się, gdy pojawią się nań "łacińskie dworki". Sołtys wsi Łubniki twierdził, że uciekli ze wsi pańszczyźniani chłopi, którzy ze swą bizantyjską zajadłością niszczą naród w miastach. Jan Leończuk nie powiedział, o jaki naród mu chodzi, ale wolno się domyślać, że o polski. Mało tego, ci chłopi pańszczyźniani (Białorusini) kontynuują według niego politykę Kozaków, którzy w Narewce nawracali unitów na prawosławie. Zapewne chcą p. Leończuka nawrócić na białoruskość, ale sądząc po ilości łacińskich dewocjonaliów w pokazanej jednej izbie (aż strach pomyśleć, co jest w następnych), on się już nie da. Szkoda tylko, że sołtys-poeta nie wie o tym, iż w Narewce nigdy nie było żadnych unitów. Ale to z poezją i patriotyzmem J. Leończuka nie ma nic wspólnego.

(am)

"Otwarte studio" Telewizji Polskiej (8-9 grudnia 1989 r.) poświęcone mniejszościom narodowym przeszło bez echa w krajowych publikatorach prasowych. Prasa, która nie żałuje miejsca na omówienie nawet najbłahszych scenek na srebrnym ekranie, solidarnie przemilczała program będący zapisem unikalnym, zapisem konfrontacji pewnego mitu narodowego (może państwowego?) z rzeczywistością, jaką mamy na dzień dzisiejszy.

Milczenie w tym wypadku może być wszystkim, ale nie złotem.

(jm)

## АДОЗВЫ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКАГА КАМІТЭТА "ГРАМАДА"

### Да Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне"

Браты!

Беларускі народ разбудзіўся. Па ўсёй нашай зямлі пачынаецца нацыянальнае адраджэнне. Глыбока верым, што гэтым разам яно збудзецца і наш народ стане нарэшце самастойнай нацыяй.

Вядучай сілай у гэтым працэсе прызнаем БНФ "Адраджэнне". Са свайго боку БГК "Грамада" імкнецца падняць палітычна-грамадскі рух беларусаў у Польшчы.

Беларускае савецкае грамадства не мае ніякага ўяўлення пра быт беларусаў у Польшчы. У колах нацыянальнай інтэлігенцыі існуе міф пра "беларускую аўтаномію" на Беласточчыне. Тым часам тутэйшыя беларусы карыстаюцца толькі свабодай думкі. Няма на Беласточчыне аніякай беларускай аўтаноміі, няма нават школьніцтва. Паланізацыя перавышае савецкую русіфікацыю. Пасля сарака пяці год камуністычнае ўлады Беласточчына апынулася ў стане цалкавітай руіны і спустошэння.

На жаль, новыя ўлады, якія афіцыйна спачуваюць нацыянальным меншасцям, у сапраўднасці з намі зусім не лічацца. Што горш, плануецца каланізацыя беларускага абшару Беласточчыны польскімі асаднікамі. Ставіць гэта пад сумніў нашу этнічную тут будучыню.

"Салідарнасць", вядучая сіла польскага грамадства, неаднойчы заяўляла, што бачыць БНФ "Адраджэнне" як прадстаўніка беларускага грамадства. Пара праверыць тыя заявы. Чакаем на Беласточчыне праўлення БНФ, якое павінна азнаёміцца са становішчам на месцы і правесці размовы з "Салідарнасцю".

Беларусы Беласточчыны, хоць аддзелены ад Радзімы дзяржаўнай мяжою, ёсць неад'емнай часткай беларускай нацыі. Таму просім і дамагаемся духоўнай падтрымкі.

Не заставайцеся глухімі на наш кліч. Калі прачнецеся запозна, з Беласточчыны адкажа Вам толькі рэха.

### Да Беларускай эміграцыі

Суродзічы!

Беларускі народ стаіць на парозе вольнасці. Гістарычны момант патрабуе ад нас аб'яднання ўсіх нацыянальных сілаў, супрацоўніцтва ўсіх беларусаў, дзе б яны ні жылі - на падзеленай мяжамі роднай зямлі ці ў шырокім свеце.

Ролю арганізатара беларускай палітычнай дзейнасці ў Польшчы ўзяў на сябе Беларускі Грамадскі Камітэт "Грамада". Каб захаваць беларушчыну на Беласточчыне і рупіцца пра яе развіццё, у сённяшняй сітуацыі не хопіць адно культурніцкай дзейнасці. Нам трэба палітычны беларускі рух, неабходна мець сваю палітычную партыю. Бо сённяшняя Беласточчына, гэта нават не даўнейшая "Польшча В", гэта цяпер "Польшча С": "усходняя сцяна", што разглядаецца ўладамі як поле для чарговай хвалі польскага асадніцтва.

Беларуская партыя будзе змагацца за беларушчыну на Беласточчыне шляхам працы развіванай на гады, пабудовы тэрытарыяльнага самаўраду і адбудовы гаспадаркі беларускімі сіламі.

Верым, што наш дзесяцімільённы народ ужо неўзабаве адважа свае правы на свабоду і самастойнасць. Але, пакуль нашы суродзічы з-за мяжы занятыя напружанай барацьбою за вызваленне з савецкага ярма, на іхнюю помач спадзявацца не можам.

Спадзяемся на Вашую помач. Колькасць беларусаў на Беласточчыне і на эміграцыі параўнальная, так як і колькасць людзей адданых беларускай справе. Уплыў нешматлікай эміграцыі на ход падзеяў у падсавецкай Беларусі можа быць толькі ілюзорным. Тая ж помач для пакінутых самім сабе беларусаў Беласточчыны можа мець значэнне вырашальнае, тым больш, што можна яе абаперці на легальную аснову.

Таму заклікаем Беларускую эміграцыю да засяроджання сваіх намаганняў на падтрымцы беларушчыны на Беласточчыне. Патрабуе гэтага беларускі нацыянальны інтарэс.

Жыве Беларусь!

# OUR NEWS

The bulletin issued by the Byelorussian Commitee HRAMADA to welcome the founder's congress of Byelorussian political party in Białastok on the 10th of February 1990

## SUMMARY

Sokrat Janowicz (p.1) reflects upon the possibility to organize and develop the political activity of the Byelorussian national minority in Białastok Region (north-eastern part of Poland). Social ground for such activity is briefly discussed as well as the principal difficulties to overcome.

THE PROGRAMME OF BYELORUSSIAN PARTY - A PROPOSAL (p.2.). This programme has been elaborated by the Byelorussia Social Commitee HRAMADA (an initiative group of Byelorussian political movement). The main political, economic, cultural and educational activities proposed in it aim at stopping the polonization of the Byelorussians and tend to develop the ways of economic and cultural survival of the Byelorussian minority in post-communist Poland.

Jan Maksymiuk, NEW TOTALITARISM? (p.5). A detailed account of the conflict in the Cultural Centre in Hajnauka (Białastok Region) between the manager Mikołaj Buszko and the "Solidarity" part of his staff. The conflict, which occured in November 1989, caused the serious tension in relations between local Polish and Byelorussian communities. The author argues that this local conflict reflects a wider trend in Poland to establish a new political situation with force and law-breaking.

Wiktor Stachwiuk, WHIRLS AROUND ELVIRA(p.11). This text, subtitled "A Picture of the Chase", is a satirical handling of the final phase of the conflict in Hajnauka.

Eugeniusz Mironowicz, THE ECONOMIC SITUATION OF THE EASTERN PART OF BIEŁASTOK REGION DURING LAST DECADES (p.14). A detailed survey with adequate statistical data of the economic situation of the area populated predominantly by the Byelorussians. The situation is compared with that of the western ("Polish") part of the region. The author shows how the purposive policy of local and central authorities brought economic and ecological devastation of the Byelorussian ethnical territory.

Wiktor Stachwiuk, NEOCOLONIZATION (p.17). An idea of colonization of the Byelorussian ethnical territory in Białastok Region by incomers of Polish origin from Soviet Kazakhstan and other Soviet republics have been recently discussed in Polish mass-media. If such an action takes place, ineluctable wiping out of Byelorussian economic and cultural presence will follows as a consequence.

LIFE ITSELF (p.18). Three notes commenting on the attitudes of Polish mass-media towards problems of national minorities within Poland.

APPEALS OF THE BYELORUSSIAN SOCIAL COMMITEE HRAMADA: TO THE BYELORUSSIAN POPULAR FRONT "ADRADŽEŃNIE" and TO BYELORUSSIAN EMIGRANTS IN THE WEST (p.19). Today the revival of Byelorussian people for independent national life is a fact. But for Byelorussian national minority in Poland there still exists a threat of disintegration and forcible assimilation. The Byelorussian Social Commitee HRAMADA appeals for moral and material support.

SUMMARY (p.20).

ПРАЧЫТАЙ І ДАЙ ПАЧЫТАЦЬ ІНШАМУ!

---

НАШЫ НАВІНЫ. Бюлетэнь Беларускага Грамадскага Камітэта ГРАМАДА падрыхтаваны да заснавальніцкага кангрэсу беларускай палітычнай партыі ў Беластоку 10 лютага 1990.
Рэдактар выдання: Ян Максімюк.

---

WDK Białystok.Zam.29/90.N.300 egz.F.A4.